© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 43 (1641)) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 25 КАСТРЫЧНІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.



Ветраковая доля. Фота Уладзіслава Завадскага.

## Пётр Скепка і яго калектыў




На працягу многіх гадоў пасля ліквідацыі „Лявоніхі" адзываліся ў розных беларускіх асяроддзях галасы. Іх сутнасць зводзілася да аднаго: чаму няма „Лявоніхі"? З гэтага трэба зрабіць вывад, што сярод беларусаў жыве настальгія за эстрадным мастацтвам.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства рабіла намала, каб рэактываваць эстрадны калектыў, аднак усе спробы канчаліся няўдачай. Не было грошай, ды і эстрадных талентаў таксама як бы не было відаць. З гэтых прычын Беларускае таварыства на працягу многіх гадоў не было ў стане задаволіць патрабаванняў сваіх членаў і сімпатыкаў.

І як гэта не дзіўна, але тое, чаго не былі ў стане зрабіць мы ўсе разам, зрабіў адзін чалавек — Пётр Скепка.

Чалавек гэты, наколькі мне вядома, не мае спецыяльнай музычнай ці мастацтвазнаўчай адукацыі, але мае тое, што называецца Божай іскрай. Вось гэту іскру і патрапіў ён ператварыць у вялікае полымя. Створаны ім музычна-вакальны калектыў „Дубіны" заваяваў сімпатыю ўсёй усходняй Беласточчыны. Ды і не толькі. Яго песні і мелодыі людзі розных інтэлектуальных узроўняў запісваюць на плёнкі і слухаюць, слухаюць, слухаюць. Кіраўнік беларускай праграмы ў Польскім радыё ў Беластоку атрымлівае дзесяткі, сотні лістаў, у якіх слухачы просяць не твораў беларускіх празаікаў ці паэтаў, ні выступленняў дзеячоў, а просяць Дубіноў і Дубіноў.

Прызнаюся, што на працягу даволі доўгага часу не быў я энтузіястам гэтай эстраднай групы. Чаму? Сам не ведаю дакладна. Па-першае, думаю, таму, што ўвогуле адношуся крытычна да настрояў стадыёнаў. Не люблю, калі тысячы людзей крычаць у адно або хочуць таго самага. Па-другое, мне здавалася, што „Дубіны" гэта тыповы для сённяшніх часоў калектыўчык „моцнага ўдару" і што яго дэвізам з'яўляецца: абы гласней! Да канца мяне не пераканалі „Дубіны" і на навагоднім балі ў Палацы культуры ў пачатку бягучага года. Аказваецца, што „Дубіны" трэба слухаць у спецыяльнай атмасферы, а не тады, калі танцуе пяцьсот пар і на сталах звіняць кілішкі і бутэлькі.

І вось у жніўні гэтага года мяне паведамілі, што „Дубіны" будуць даваць два канцэрты ў маім гмінным мястэчку Міхалова і добра было б, калі б я паехаў разам з імі і прамовіў да сабранай публікі на тэму беларускай свядомасці, адносін да роднай мовы і культуры. І хаця мне гэта было не на руку, бо меў я сухое сена, якое трэба было прывезці ў пуню, у Міхалова я ўсё ж такі паехаў. Аказалася на месцы, што канцэртаў будзе не два, а тры і што на ўсе тры выкуплены ўсе білеты ў зале, якая лічыць 150 месцаў. І вось тут я быў „прымушаны" выслухаць тры канцэрты і, што называецца, да канца засмакаваць у мастацтве „Дубіноў". Перш за ўсё здзівілі мяне адносіны міхалоўцаў, якіх я лічыў людзьмі да канца паланізаванымі і абыякавымі на праявы роднага, да беларускага калектыву. Натоўп быў так густы і так рваўся з выцягнутымі рукамі з білетамі, што разбіў у мясцовым Доме культуры здаравенную шыбу пры дзвярах. Па-другое, зала на трох канцэртах была запоўнена да апошняга месца, па-трэцяе, людзі з вялікай увагай услухоўваліся ў гукі музыкі і песні. Па-чацвертае, без канца дамагаліся бісаў і не хацелі пусціць калектыў са сцэны. Усё гэта было вельмі важным аргументам у карысць „Дубіноў". Але ж я меў, як гэта гаворыцца, уласны розум і стараўся ўспрымаць

(Працяг на стар. 7)

## З ПАЕЗДКІ Ў БССР

## ВІТАЙ, БЕЛАВЕЖА

**Уладзімір Лявонцьевіч Бядуля** на сваёй машыне паказваў нам дарогу. Мы імчаліся за ім „Волгай" з Брэсцкага тэлецэнтра. Ліпеньскі дзень стаяў сонечны, але гэтае сонейка ўжо далёка перакацілася цераз поўдзень. Старшыня калгаса „Савецкая Беларусь", а заадно і дэлегат 27 з'езда КПСС, і дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, і Герой Сацыялістычнай Працы, ды пры ўсім гэтым цалкам скромны чалавек, Уладзімір Лявонцьевіч, загадаў свайму шаферу, каб найперш заехаў у пасёлак **Камянец**. Гэта раённы цэнтр у прыгранічнай паласе Брэсцкай вобласці. Па сваёй велічыні напамінае ён нашы Кляшчэлі ці Сямяцічы. Дарэчы, з Кляшчэлеўскай, Чаромхаўскай і Нурэцкай гмінамі Камянецкі раён сутыкаецца непасрэдна цераз дзяржаўную граніцу.

З паясненняў маіх сяброў вынікала, што ў гэтым пасёлку пражывае зараз каля шасці тысяч людзей. Працуюць яны на масласырзаводзе, на заводзе для сушкі агародніны, на Камянецкім філіяле Брэсцкага завода металавырабаў, у хлебапякарні, на камбінаце бытавога абслугоўвання, у лясніцтве і ў іншых установах. Іх дзеці вучацца ў сярэдняй школе і ў школе рабочай моладзі. Ёсць таксама музычная і спартыўная школы. Дзейнічае Дом піянераў, Дом культуры, кінатэатр, дзіцячыя яслі і прадшколле, на месцы — бальніца.

Спыніліся мы ля нейкага трохпавярховага будынка. Без лішніх паясненняў можна было зразумець, што гэта афіцыйны гмах, у якім памяшчаецца раённы камітэт Камуністычнай партыі Беларусі. На вечнай варце перад райкомам стаяў на высокім пастуменце заснавальнік гэтай партыі — Ул. І. Ленін.

Камянец — горад старажытны. Ён сведак ранняй сярэдневяковай мінуўшчыны. Вядома нават, што па загаду князя Уладзіміра Васількавіча Камянец заснаваў у 1271-1289 гадах нейкі Алекса, выдатны будаўнікдойлід. Камянецкая крэпасць была састаўной часткай абаронных збудаванняў, якія засланялі Берасцейскую зямлю найперш ад мазавецкіх князёў, а затым таксама ад тэўтонскага крывавага ордэна.

(Працяг на стар. 4)

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

Толькі Мар'янка з'ехала ліфтам з ходнікамі ўніз, каб іх вытрасці, да яе падышоў высокі, чарнавусы мужчына ў моднай джынсавай вопратцы. Даведаўшыся, дзе яна жыве, знік, а паявіўся ў кватэры мінут праз 10 з паўлітрам „рабінаўкі“ і каньяком.

Дзяўчаты якраз канчалі наводзіць парадак. Гаспадыня была ў санаторыі, і цяпер яны апекаваліся канарэйкай, кветкамі і ўсімі пакоямі гаспадыні, застаўленымі вечна адпыльванымі мяккімі крэсламі і канапамі і мэбляй з арэхавага дрэва.

Дзяўчаты пераглянуліся. Юлітка кінула Мар'янцы: вядзі яго на вялікі пакой. Някепскі хлапец: прыгожы. Дзе ты яго ўзяла?

Прадставіліся як гаспадыні хаты, сёстры, студэнткі.

— Цікава, хто ваш бацька, што вам кватэру залатвіў! Цяпер вядома, як з гэтым цяжка, калі ў лапу не дасі ці плячэй не маеш, — зачаў размову Янэк, наліваючы гарэлку.

— Я не п'ю! — адвярнула сваю чарку Мар'янка.

— Ну што ты, я абражуся. У добрай кампаніі мы можам сябе адчуваць свабодна, праўда, Юліта?

Дзяўчаты шчыра заставілі стол усім, што якраз прывезлі ад бацькоў. Выкалупалі ў крэдэнсе гаспадыні дзве бутэлькі „ніто“ — ні то чвэртка, ні то паўлітра — чыстай.

Мар'янка цвёрда не піла. На наступны дзень чакала яе „карткоўка“ па матэрыялазнаўстве. Юліта ўляпіла масляныя вочы ў Янку, які ўжо паўляжаў на канапе. Засвяцілі тоўстую свечку, каб утульней было.

— Я толькі што вярнуўся з Амерыкі, быў там два гады. Гэтая разбітая машына пад блокам, сярэбраны мерседэс, гэта мая. Больш за ўсё люблю хуткую язду. Ужо тры разы разбіўся.

У Янкі яшчэ было ўсяго многа: відэо, праігрывальная апаратура з „пэвэксу“, дываны і іншае дабро.

— Заходзьце, дзяўчаткі, паглядзіце, што хочаце: фільм з „Пінкфлойдамі“, горар, порна. Ёсць у мяне вельмі цікавы фільм, як кахаецца сям'я...

— Што ў гэтым дзіўнага? — здзівілася Юліта.

— Ну, а што ты думаеш, калі гэта маці з сынам, брат з сястрой, дачка з бацькам? Вельмі, вельмі сучаснае.

— Ведаеш, ты памыліў нашу ўражлівасць. Нас гэта не цікавіць! — абурылася Мар'янка.

— Прабач, коціку, думаў, што вы, як студэнткі, больш сучасныя... — Янэк перакуліў наступную чарку, задумаўся. Трэба змяніць запіс, зайграць на іншай струне: які ён бедны, нешчаслівы. Гэтыя ноты найбольш парушаюць і маладых дзяўчат, і спелых жанчын, заўсёды гатовых заняцца такім бедным, нешчаслівым, прытуліць, пагладзіць па галоўцы, часам добра ўжо паліняўшай.




— Колькі табе год? — запыталася Мар'янка.

— Дваццаць восем! — рашуча сказаў Янэк, паціраючы высокі лоб. Падумаў, што для гэтых маладзенькіх дзяўчат яго 32 — гэта вельмі ж сур'ёзны ўзрост. — А колькі я перажыў, колькі выцярпеў...

Палілася аповесць аб яго першым каханні, якое назаўсёды зламала яму жыццё. Паехаў быў Янка вучыцца ў вышэйшую школу. Яго нарачоная купіла ўжо шлюбную сукенку, ён таксама падрыхтаваў новыя касцюм ды боты. Прыехаў на зімовыя канікулы — а Зося з жыватом ходзіць, ад нейкага таксіста. Кінуў Янка свой горад з сэрцам напалавіну раздзертым. Пасля сустрэў жанчыну, якая стала яго жонкай, але яна кінула яго хутка, удабавак забраўшы ад яго сына.

— Ой, як ты мусіш ненавідзіць жанчын! — усклікнула ўсхваляваная Мар'янка.

— Не, не, я паненак вельмі ж люблю, гэта мая адзіная адмоўная рыса характару..

Пазваніў тэлефон. Юлітка знікла ў другім пакойчыку.

— Мар'янка, сплаў гэтую малую, — „амерыканец“ заглянуў дзяўчыне ў вочы.

— Мар'янка, званіла Аська, зайдзі да яе са сшыткам, з... гэтымі... выкладамі. Толькі вярніся хутка.

— Магу яшчэ ў вас сёння тут пабыць? — запытаўся Янка, распластаны на канапе.

— Чаму не, толькі глядзі, каб добра сябе паводзіў, — паважна сказала Мар'янка, выходзячы.

Вярнулася праз гадзіну. На званок ад дзвярэй хутка падбегла Юліта. На канапе гаспадыні, у яе пасцелі, ляжаў „амерыканец“.

— Што гэта такое чаўпецца? Хутка апранайся і будзь добры, выйдзі ў тры міга. Раз, два, тры! — замахала рукамі Мар'янка.

— Ты што, здурэла? Колькі табе год? Тут нічога не рабілася, толькі я аслабеў, ведаеш, я даўно не піў! Чаму ты мяне так не любіш?

Яшчэ доўга гаварыў Янка, апранаючы свае джынсы. Пасля сеў, наліў зноў чарку, выпіў, скруціўся ў клубочак ды заснуў.

Цікавыя вы, напэўна, каханыя чытачы, як гэта гісторыя закончылася? Юлітка і Мар'янка пагасілі святло і пайшлі спаць у свой пакойчык.

— Што гэта цяпер за мужчыны! Вып'е такі чарку і ўжо слабее, — смяялася Юлітка, паказваючы Мар'янцы залаты ланцужок, які ёй надзеў „амерыканец“, каб паказаць свае шчодрасць і багацце. — Цікава, на якой струне будзе цяпер хацеў зайграць. От, фраер, трэба будзе яго выкарыстаць як мага больш.

Раніцай дзяўчаты паказалі зялёнаму на абліччы „амерыканцу“ дарогу дадому. Увечары хацелі паглядзець фільм у яго каляровым тэлевізары. Дзверы адчыніла ім маладая жанчына з чатырохгадовым хлопчыкам, які адразу зацікавіўся астаўбянелымі дзяўчатамі.

— Ну, цяпер з гэтымі мужчынамі, то зусім нічога невядома! — сказала ў хаце сумная Юлітка.

**Міра Лукша**

---

шыў па ўласнаму жаданню пакінуць кабінетны стол у Брэсце і пасяліцца ў прыгранічнай вясковай глухамані, узяць пад сваю адказнасць толькі што пабуйнеўшую, значыць, і занядбаную гаспадарку, ды за кароткі час змог вывесці яе на вышыню сельскагаспадарчага прагрэсу і эканамічнай рэнтабельнасці.

— Цяпер, — гаварыў нам старшыня, — заканчваем у нашым калгасе пабудову спецыяльнага племяннога комплексу для вырошчвання лепшых парод рагатай жывёлы. Наладзіў я кантакт з Акадэміяй навук. Вучоныя абяцалі ажыццяўляць у нашым калгасе прыёмы генетычнай інжынерыі. Робяць гэта ў Бельгіі, Нідэрландах ды і ў іншых заходніх краінах, дык чаму мы маем быць горшыя? Нам жа таксама патрэбныя каровы, ад якіх надоі перавышалі б і пяць тысяч кілаграмаў малака ў год. І адпаведныя бычкі на мяса...

Шчыра кажучы, экспанаты з напханымі звяркамі і засушанымі птушкамі ды затопленымі ў нейкай вадкасці вужакамі не надта мяне цікавілі. Усё гэта бачыў я і ў нашым Белавежскім прыродазнаўчым музеі, які знаходзіцца ў Белавежы. Нават наш музей здаўся мне шмат багацейшы.

— Пайдзіце цяпер пагуляць па Белавежскай пушчы! — рашуча заявіў Уладзімір Лявонцьевіч. — Для мяне гэта не цікава, я тут маю свае справы. Сустрэнемся цераз гадзіну...

І пабрылі мы з Аляксандрам Кавальчуком сцяжынкамі і дарожкамі Белавежскага заказніка, як гэтую частку Белавежскай пушчы афіцыйна тут называюць.

Вось якая ты тут, спрадвечная прыгажуня!

У сэрцы адчувалася нейкае павышанае хваляванне, быццам бы той безупынны шум-напеў паднебных сосна́ў і дубоў праходзіў скрозь цела і шаптаў на вуха легенду аб сваёй магутнасці.

Раптам сярод гэтага адвечнага лесу паявіліся нейкія жалезныя аграмадныя загарадзі. Алесь Кавальчук, брэсцкі журналіст, бывалы ў гэтых старонках, паясніў мне, што гэта своеасаблівы заапарк пад адкрытым небам, у якім дэманструюцца прыкладныя звяры, звяркі і аграмадныя жывёлы, засяляючыя Белавежскую пушчу. Чамусьці, аднак, у гэтых аграмадных клетках, якія цягнуліся па некалькі дзесяткаў метраў, у гэты дзень іх кватарантаў не аказалася. Толькі таблічкі з назвамі інфармавалі, чые гэта клеткі. І я гэтага не шкадаваў, бо ўсё ж такі павеяла няволяй і мне адхацелася далейшага вандравання сярод гэтых жалезных загарадзяў.

Настрой таемнасці таксама недзе прапаў. Мы проста прыселі на паваленай калодзе і пад напеў нейкай птушкі дачакаліся гадзіны, назначанай нам Уладзімірам Лявонцьевічам для сустрэчы. А што было далей, дык аб гэтым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

---

## ГУТАРКІ Ў ДАРОЗЕ

### НЕ ДУРЫ ГАЛАВЫ!

— Не буду казаць вам, хто я, бо і нашто вам? Але во што скажу вам: не ўсе шануюць вашу „Ніву“. Пайшла я неяк у краму, каб купіць што, а была акурат пятніца, калі новую „Ніву“ прывозяць. Людзі, нават даволі тлумна, пачалі выкупляць, ну, „Ніву“ і адна кабета прыйшла з гэтай свежаю „Ніваю“ ў краму ды ўзялася чытаць, чакаючы тавараў. Аж тут падыходзіць да яе другая такая самая і гаворыць: „Вы такая прылюдная асоба, а чытаеце гэтую анучу...“ Яна сказала іначай, чым „ануча“, але я саромеюся паўтараць вам тое слова. Ну, тая, што якраз чытала „Ніву“, нават прызлавала была і пачалася між імі даволі непрыемная гаворка. Аднак, скажу вам, чытачка вашай „Нівы“ не ўступіла, не паддалася!

А другі раз падобную гісторыю перажыла я ўжо ў самой Гайнаўцы, на станцыі. Тады я сама купіла вашу „Ніву“ і прысела пачытаць. І раптам чую над сабою мужчынскі голас, гляджу, кавалер нейкі затрымаўся каля мяне, глядзіць пасмешліва на „Ніву“ ў маіх руках і кажа: „Ну і што ў той „Ніве“ налгалі новага?“ Я глянула на яго з-пад лоба, ён засмяяўся ўголас, падышоў да суседняй лаўкі, сеў і разгарнуў перад сабою нейкую вялізную газету, як бы захацеўшы мне гэтым сказаць, што толькі ў яго газеце адну праўду пішуць...

Я потым думала: чаму некаторыя так не любяць „Нівы“? Бо ж „Ніва“ нічым не розніцца ад іншых, бо і ў іншых газетах усякае бывае... Аднак, розніца ёсць: „Ніва“ выходзіць на беларускай мове і найбольш займаецца сельскімі справамі. Таму сёй-той можа недалюбліваць яе, хварэючы на пана. Але такі чалавек не скажа, што яму не падабаецца мова, ужо не той час, калі можна было пляваць на яе ўсяляк. Ён будзе абзываць „Ніву“ махляркаю, ведаючы, што такую празыўку ад рукі не праверыш. Так як людзі часам лгуць, так і к о ж н а я газета часам лжэ, бо ж не святыя робяць яе, але такія ж самыя людзі... Пляткаваць заўсёды лёгка, плёткі тым і страшныя, што невядома, а ці не праўда ў ёй?! Цяпер то я маю спосаб на такіх пляткароў. Кажу ім: „Ніхто не прымушае вас чытаць „Ніву“ Калі яна табе лжэ, то не чытай і ідзі сваёй дарогаю, не дуры мне галавы, чалавеча!“ **(ся)**

---

### НАРАЎКА Ў РАМОНЦЕ

Узяліся рамантаваць Нараўку. Рамантуюць кіно „Лес“. У амбулаторыі раскідалі даўно нікому непатрэбную дабудоўку. На вуліцы Міцкевіча, у будынку былога бюро ГСу змясцілі патрэбную абутковую краму. А на вуліцы 22 Ліпеня рамантуюць унутры будынак, у якім дагэтуль была гэта абутковая крама. На той жа вуліцы таксама рамантуюць краму з прамысловымі таварамі.

Аднак жа, самае важнае, што ўрэшце-рэшт зрабілі рамонт будынка, у якім калісьці знаходзіўся пастарунак МО. Там ужо нехта жыве — у вокнах відаць фіранкі і кветкі.

**Аўрора**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# БЕЛАРУСІКІ

Bibliografia literatury tłumaczonej na język polski, wydanej w latach 1945—1976, T. 1, Warszawa 1977. Rec. Bieńkowa Barbara, *Rocznik Biblioteki Narodowej* t. 14, 1978, s. 269—300; Kuczyński Krzysztof A., *Acta Universitatis Wratislaviensis* no 444, 450, 463, 576, 579, *Germanica Wratislaviensia* 1980, t. 40, s. 271—273; Kozarzewska Ewa, *Przegląd Humanistyczny* 1977 nr 11, s. 232—234.

Biblijahrafija pa historyi Biełarusi, fieadalizm i kapitalizm, Mińsk 1969. Rec. Barduch Juliusz, *Kwartalnik Historii 1971*, nr 3, s. 682—684.

Bibliografia rusycystyki polskiej 1945—1975, t. 1—3. Warszawa 1976. Rec. Różewicz Jerzy, *Kwartalnik Historii Nauki i Techniki* 1977, nr 1, s. 178—180.

Biczel-Zahnietawa Danuta, Koniec (w), tł. z białor. Adam Włodek, *Życie Literackie* 1969, nr 45, s. 9.

Biczel-Zahnietawa Danuta, Nieśmiertelni (w), tł. z białor. Maciej Józef Kononowicz, *Kierunki* 1972, nr 48, s. 5.

Biczel-Zahnietawa Danuta, Ty to ty, Łódź 1981. Rec. Janowicz Sokrat, *Tygodnik Kulturalny* 1981, nr 18, s. 11.

Bidwell Charles Everett, Outline of Belorussian Marphology, Pittsburg 1967. Rec. (Jurkowski Marian) M.J., *Slavia Orientalis* 1970, nr 2, s. 228—229.

Biełaruskaje mowaznaustwa. Biblijahraficzny ukazalnik (1825—1965 h.h.) Mińsk 1967. Rec. Kondratiuk Michał, Raudelinas Vytantas, *Acta Baltico-Slavica* t. 7, 1970, s. 319—323; Smułkowa Elżbieta, *Slavia Orientalis* 1968, nr 1, s. 114—115.

Biełaruskaja sawieckaja encykłapiedyja, t. 1, A. Afina, Mińsk 1969. Rec. Tomaszewski Jerzy, *Przegląd Historyczny* 1971, z. 2, s. 316—318.

Bierezanska Zofia, Osada kultury wschodnio-trzcinieckiej. Tł. Jan Gurba, Z *Otchłani Wieków* 1967, z. t. s. 205—211, il. rys.

Biryła M.W., Biełaruskaja antrapanimija. Mińsk 1966. Rec. Karaś Mieczysław *Onomastica* R. 14, z. 1/2, s. 235—237.

Biryła Mikołaj, Biełaruskaja antrapanimija, cz. 2, Struktura własnych mużczynskich imion, Mińsk 1982. Rec. Strutyński Janusz, *Onomastica* R. 29, 1984, s. 296—302.

Bjalkević Ivan K., Krajovy slounik uschodnjaj Magilouśćyny. Mińsk 1970. Rec. (Obrębska-Jabłońska Antonina) A.O-J. *Slavia Orientalis* 1971, nr 1, s. 104—105.

Borba trudiaszczichsia Zapadnoj Biełorussii za socyalnoje i nacyonalnoje oswobożdienije i wossojedinienije s BSSR, t. 2 (1929—1939), Mińsk 1971. Rec. Jagodziński Wiesław, *Przegląd Historyczny* 1974, z. 4, s. 766—768.

Borisienko W.W., Pszyrkow Julian, Czerenickij W.A.: Istorija biełorusskoj litieratury. Mińsk 1977, Rec. Niedziela Zdzisław, *Ruch Literacki* 1978, z. 4/5, s. 396—398.

Bogacki Mirosław, Z paleografii czwartorzędu Białorusi. *Prace i Studia Instytutu Geograficznego* UW 1976, z. 17, s. 127—140, tab., mapa, sum.

Borkowski Artur, Po białorusku (Licea ogólnokształcące z językiem białoruskim). *Kamena* 1984, nr 7, s. 3, il.

Borkowski Jan, Sprawy mniejszości białoruskiej i ukraińskiej w miesięczniku „Droga" (1922—1937), *Z dziejów Stosunków Polsko-Radzieckich i Rozwoju Wspólnoty Państw Socjalistycznych* t. 17, 1978, s. 147—176.

Borkowski Jan, Sprawa mniejszości ukraińskiej i białoruskiej w Polsce międzywojennej, *Kraje Socjalistyczne* 1985, nr 1/4, s. 365—382.

Borkowskij Wiktor, Smieszenije priamoj i koswiennoj rieczi w biełorusskich skazkach. *Slavia Orientalis* 1978, nr 2, s. 241—244.

Brocki Zygmunt, Wydawnictwa leksykograficzne Białoruskiej SRR, Litewskiej SRR i Łotewskiej SRR 1948—1970. *Acta Baltico-Slavica* t. 10. 1976, s. 363—375, tab.

Brouka Piatruś: Idąc za nim... (w), tł. z białor. Henryk Szylkin, *Nadodrze* 1970, nr 8, s. 9.

Brouka Piatruś, Idę za nim (w), tł. Piotr Stefanowicz, *Życie Literackie* 1977, nr 45, s. 1, il.

Bryl Janka, Byle na zdrowie, tł. z białor. Anna Sobecka, *Nadodrze* 1981, nr 12, s. 8.

P.C.





Скульптура Яна Хрысціцеля.

## УНІКАЛЬНЫ ПОМНІК У ШЧЫТАХ

На Галавасека я выбраўся ў Шчыты, але па дарозе зайшоў на пошту ў Галадах, начальнік якой пані В. Шумская з Бельска. Мы згаварыліся, вядома, пра падпіску „Нівы". Лістанош Уладзімір Раецкі з Крывое мае сорак сем падпісчыкаў „Нівы" ў Крывой, Агародніках і Галадах. Наогул някблага, але магло б быць лепей, больш чытачоў нашай „Нівы".

А ў Шчытах на Галавасека столькі народу наз'язджалася, столькі аўтаў усякіх марак, што як Шчыты ёсць Шчытамі, такой гаманы яшчэ ніхто тут не чуў-не бачыў!

Увечары была гулянка, музыкі, на якіх прыгожа танцавала моладзь, а старыя толькі зіркацелі збоку. Дзверы, што віселі тут, у гэтым будынку, усяго на адным круку, ужо прапалі, нехта ўкраў іх, панёс. Усё панеслі, няма ні клуба з культураю, ні святліцы з газетамі ці тэлевізарам або іншымі цацкамі. Кажуць шчытоўцы: як зойдзе сонца за лес, усе сядзяць па хатах, ніхто нікуды не выходзіць.

Каля шчытоўскай царквы стаіць унікальнай гістарычнай вартасці скульптура Яна Хрысціцеля. Ёю трэба апекавацца, не даваць знішгожыць яе, дагледзець!

**А. Гаўрылюк**

Фота аўтара

### АСАТЫ, АСАТЫ...

Як вядома, з Гайнаўкі ў Бельск праходзіць чыгунка. Штодзень праязджае трынаццаць пасажырскіх паяздоў. Людзі едуць і едуць, вандроўны мы народ. Але вось што кідаецца ў вочы, гледзячы ў вокны вагона: асаты і асаты на абочынах, высокія, роўныя з чалавекам! Проста плантацыя асоту. Асабліва непрыемна глядзець на гэта на тым участку чыгункі, якая праходзіць яшчэ на тэрыторыі горада Гайнаўка, ад вуліцы Варшаўскай да моста. Бо за горадам знайшліся касцы, выкасілі. А хто ж выкасіць асаты ў Гайнаўцы?..

А. З.

## ДАЛІ РАДЫ

Іван Семянюк, дырэктар бельскага ПОМа, на мае роспыты, як праходзіла жніво, адказаў:

— Наш ПОМ падрыхтаваўся да жніўных работ. Хутка рамантавалі тэхніку, якая псавалася ў полі. Мелі свае запасныя часткі, а гэта вельмі важнае! Прытым зусім някепска складалася ў нас супрацоўніцтва з ПОМамі ў Беласточку, Нарве, Кляшчэлях, Сямяцічах. Справа зноў жа ў запасных частках, ва ўзаемным абмене імі: дайце нам тое, што нам трэба, а мы дамо вам тое, што вам трэба. Гэта як з дружбаю, якая толькі тады будзе адбывацца ў толк, калі ўзаемная карысць ад яе... Маем добрых, гарантыйных механікаў — Вячаслава Антыховіча, Яўгена Башуна, Аляксандра Цара, Крыштафа Маліноўскага, Уладзіслава Ружанскага. Але не адны яны выратоўвалі ПОМ у крытычныя моманты: акуратна папрацавалі і тыя, якія штодзень робяць у варштатах, займаючыся рэгенерацыяй або і вырабам зусім новых частак, патрэбных дзеля падмены сапсаваных. Заслужыліся і інсталятары... Усіх разам працавала каля сарака чалавек, ад усходу сонца да ўсходу месяца дзень у дзень. Быў такі дзень, калі трэба было амаль пажарным парадкам рамантаваць машыны ў Арлянскай гміне. Скончылася лета і зрабілася як бы спакайней у нас, займаемся ўжо рэгулярнымі рамонтамі. Маем просьбу да СКРаў, каб свае машыны там кансервавалі, не дапускалі да руіны, тады і нашаму ПОМу лягчэй будзе парамантаваць тыя машыны на будучае жніво ў восемдзесят восьмым годзе. Маюць жа яны трохі сваіх механікаў.

А так наогул, дык за мінулы сезон трэба было рамантаваць 87 камбайнаў „Бізон", 141 снапавязалку, 35 прэсаў для снапоў і аж 57 трактараў, часта непасрэдна ў полі.

Які стан тэхнікі, такое і жніво. У гэтым годзе добра далі мы рады. Як будзе ў наступны — пабачым.

**Андрэй Гаўрылюк**

## БЕЛАРУСЫ Ў ЛЁНДКУ-ЗДРОІ

Калі адпачываў я і падлечваўся ў Лёндку-Здроі, адбываўся там XXIII фестываль рускай і савецкай музыкі. Між іншым, выступалі савецкія калектывы „Ляўша" і „Русічы", трыо. Калі артысты затанцавалі беларускую „Весялуху", то мне здалося, што я не ў глыбі Польшчы, а на Беласточчыне якраз, на нейкім нашым фэсце з нашымі танцорамі... „Весялуху" бісавалі! Праз колькі дзён пасля спаткаў я тут зямлячку з Брэста, Ларысу Паўлаву, якой расказаў пра нашу „Ніву", і яна гэтым зацікавілася. Я падарыў ёй некалькі нумароў нашай газеты.

Яшчэ адзін зямляцкі акцэнт быў у мяне, калі я хадзіў на канцэрты XXIII фестывалю ў Лёндку-Здроі: выступаў вядомы хор царкоўных спеваў пад кіраўніцтвам Юркі Шурбака, які родам з Бельска.

**А. Гаўрылюк**




Першы гром ударыў над Вавелем.

У паслухмяную ды лагодную дагэтуль каралеўну Ядвігу раптам быццам бы ўступіла нячыстая сіла: яна наадрэз заявіла, што і на вочы бачыць не хоча ніякага Ягайлы, бо яшчэ пры бацьку-каралі яе звянчалі з каралевічам Вільгельмам Габсбургам. Ён ёй падабаецца і будзе яе мужам. Калі б гэта быў усяго толькі хвілінны капрыз тады 12-гадовай каралевы-дзяўчынкі, пра яго не варта было б і згадваць. Але ж адначасна, дзякуючы намаганням кракаўскіх прыхільнікаў Габсбургаў, каралевіч Вільгельм патаемна з'явіўся ў Кракаве. І не толькі што тайком сустракаўся, але, мяркуюць гісторыкі, нават... праспаўся ён з Ядвігай. Што ж, абое мелі на тое поўнае права: яны былі звенчанымі, ён быў дарослым, меў 16 год, а яна якраз увайшла ў дарослаcць, бо тады лічылася дарослай дзяўчынка ва ўзросце 12 год.

Аднак гэтае, несумненна, шчырае і праўдзівае, прынамсі з боку Ядвігі, каханне было бяздушна зглумлена кракаўскімі вяльможамі. Вільгельма яны бесцырымонна прагналі з Вавеля, а Ядвігу зачынілі ў замку.




Каралеўна ў адчаі схапіла баявы тапор і кінулася секчы браму, каб вызваліцца з няволі ды з'яднацца з мілым. Ды ці ж магло 12-гадовае дзяўчо, хоць і каранаванае, адолець пранырлівых кракаўскіх паноў? З бегам часу суцішылася яно і здалося на ласку сваіх прыдворных вяльможаў. Нямецкая дынастыя Габсбургаў рабіла ўсё, каб захапіць польскі трон, але кракаўскія вяльможы аказаліся непадатлівей, цвярдзей, чым яна спадзявалася.

Несумненна, усё гэта з падрабязнасцямі было добра вядома на двары ў Крэве і самому Ягайлу. Справы шлюбу і каранавання пачалі ўскладняцца. Па-першае, уся красачнасць ды рамантыка гэтага вянца і шлюбнага і каралеўскага раптам зблякла і абярнулася у скандал, якім разаграваліся ды весяліліся пануючыя двары ўсяе Еўропы ў доўгія асеннія і зімовыя вечары на пераломе 1385/6 гадоў. Па-другое, Альгердавічы, у тым ліку і сам Ягайла, пачалі хістацца, ці наогул варта звязвацца з польскай каронай пры такім бегу справаў. Па-трэцяе, Ядвігін бунт і любоўныя прыгоды Вільгельма моцна патрапалі ганарлівасць кракаўскіх вяльможаў і збілі цану ўсёй здзелкі.

Паміж Кракавам і Віцебскам ці Крэвам зачасцілі пасыльныя, але перамовы ўжо перасталі быць дыктатам варункаў з боку Кракава — многія з дадзе-

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 1)

калектыў праз прызму сваіх крытэрыяў і ацэнак. І што магу сказаць? Тое, што маем дачыненне з высокім мастацкім узроўнем „Дубіноў“. Галоўнае, што мне падабаецца, гэта дасканалыя галасы дзвюх салістак, вельмі цікавыя народныя песні і добрая падборка песень літаратурных, цікавая музыка, якая не глушыць ні слухачоў, ні салістаў, выключная працавітасць калектыву, які дае з сябе ўсё, разумеючы, што з'яўляецца народнай уласнасцю.

Не магу не вярнуцца ізноў да галоўнага арганізатара, інспіратара, рэжысёра, музыканта і спевака Пятра Скепкі, які зрабіў нешта амаль цудатворнае на працягу кароткага часу, стварыў тое, чаго не магло стварыць усё таварыства на працягу дваццаці гадоў.

Ці са сказанага вынікае, што „Дубіны“ гэта ў поўным сэнсе гэтага слова сучасная эстрадная група? Не зусім. Калектыў якраз крышталізуецца як эстрадны калектыў. Пакуль што не хапае яшчэ ім такіх атрыбутаў, як добры канферанс, тэматычная разнароднасць: паэзія, гумар, харэаграфічныя элементы. Беручы пад увагу нашы патрэбы, трэба было б увесці ў праграму „Дубіноў“ элементы патрыятычнай беларускай публіцыстыкі.

Канферанс'е — наш вядомы актывіст з Гайнаўкі Янка Якімюк толькі ўваходзіць у сваю ролю. Мае ён адпаведныя здольнасці і ахвоту і думаю, што з часам будзе каштоўным фактарам у праграме эстрады. Якраз ён павінен узяць на сябе прапаганду ідэй і мэт Беларускага таварыства. Павінен ён гаварыць аб тым, што для нас найважнейшае. А найважнейшае: не саромецца і не баяцца быць беларусам. Хачу падкрэсліць, што мая пачатковая боязь, што міхалоўская публіка, захопленая песнямі, не будзе слухаць прапагандысцкія выказванні, не апраўдалася. Публіка слухала і веру, што многае з таго, што я




гаварыў, узяла ў сэрца. Прынамсі мне так здаецца.

Не магу не сказаць яшчэ аб адным факце, які пярэчыць майму тэзісу аб тым, што чым багацейшы чалавек матэрыяльна, тым бяднейшы духоўна і тым скупейшы. Жыхар Міхалова Зубрыцкі запярэчыў гэтаму тэзісу. Пасля трох канцэртаў запрасіў увесь эстрадны калектыў і мяне, гэта значыць каля дваццаці чалавек, да сябе ў госці і там накарміў нас і напаіў да адказу. Прыём у доме Зубрыцкіх быў падобны на сапраўднае вяселле, а гасціннасць гаспадароў была такая, што маглі мы выйсці з іх дому толькі пасля поўначы. Жывая яшчэ душа ў беларуса!

Вяртаючыся да спраў агульных, хачу падкрэсліць, што заслужаная слава „Дубіноў“ разышлася і па-за межы Беласточчыны. Слухаў іх у Белавежы і высока ацаніў міністр культуры ПНР Аляксандр Краўчук. Ведаюць аб калектыве ў ЗША, Канадзе і, наколькі мне вядома, хочуць запрасіць яго за акіян.

І адна дзіковінка: ведаюць аб ім і дзеячы Украінскага таварыства, якое прыслала да Пятра Скепкі свайго эмісара — учарашняга супер-беларуса, а сёння супер-украінскага патрыёта Івана Кірызюка. Чалавек гэты прыехаў да Пятра Скепкі не толькі з салодкімі словамі, але і з салодкім шакаладам і з дэфіцытнай кавай. Аднак Пятра Скепкі не купіў, і паехаў Кірызюк назад з нічым. Пётр Скепка — душа калектыву, ведае, на якой зямлі жыве і да якой нацыі належыць, і, наколькі мне вядома, ні сёння, ні заўтра не намерваецца здрадзіць сваім бацькам, дзедам і прадзедам. І таму, сябры з Украінскага таварыства, не прысылайце больш у наш дом пакупнікоў душ.

Так яно бывае, што ў зямлі і на зямлі паяўляюцца самародкі. Адносіцца гэта да сыравіны і да людзей. Вось такім цудоўным самародкам, які штодзённа шліфуецца і становіцца ўсё больш высакародным дзякуючы ўпартай працы і ёсць калектыў „Дубіны“ пад кіраўніцтвам Пятра Скепкі. З усіх пракладзеных дарог бадай што найцяжэй пралажыць дарогу да чалавечых сэрцаў. Пётр Скепка і яго калектыў такую дарогу пралажылі!

**Алесь Барскі**

# АБ ПУБЛІЧНЫХ БІБЛІЯТЭКАХ

Ваяводская публічная бібліятэка ў Беластоку адсвяткавала сваё 40-годдзе. На ўрачыстасць у Беластоцкую філармонію з'ехаліся бібліятэкары з усяго ваяводства і тыя, хто быў першым пры арганізацыі публічных бібліятэк пасля вайны. Да вайны на Беласточчыне ўсім даступныя публічныя бібліятэкі не існавалі.

Хуткае развіццё такіх бібліятэк пасля вайны сведчыла — з аднаго боку — аб клапатлівасці народнай улады ў адносінах да ўсіх людзей, аб даступнасці да кніжкі; з другога боку — аб голадзе кніжкі сярод насельніцтва нашай зямлі, асабліва вясковага. Сама помню, з якой прагнасцю я па начах, пры нафтовай лямпе яшчэ, перачытвала ў Орлі з публічнай невялікай тады бібліятэкі кніжку за кніжкай, усё што пападала, для мяне ўсё было новае і цікавае.

Прайшло сорак год. Ёсць бібліятэкі, філіялы, бібліятэчныя пункты ў самых далёкіх кутках. А ўсё ж такі ў сэнсе бібліятэчнай базы Беластоцкае ваяводства занядбана ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі і можа пройдзе наступных сорак год, калі зможам сказаць, што публічнае бібліятэкарства — адно з найбольшых дасягненняў нашага часу.

Цяпер, у 1987 г. у ваяводстве ёсць: Ваяводская і гарадская публічная бібліятэка ў Беластоку і 17 яе філіялаў у горадзе. Маем дзве гарадскія бібліятэкі ў Гайнаўцы і Бельску, 14 гміна-гарадскіх бібліятэк, 35 — гмінных. У гэтых бібліятэках знаходзіцца 2,5 мільёна кніжак і маюць яны 140 тысяч чытачоў.

У многіх вясковых публічных бібліятэках ёсць кніжкі на беларускай мове. Іх нам можна і трэба пазычаць і чытаць больш, дагэтуль яны чытаюцца слаба. Гэта, аднак, тэма для асобнай публікацыі, якую пастараемся падрыхтаваць. **(вв)**

**НАВІНКА.**




Пасля доўгіх друкарскіх родаў, урэшце ўбачыла свет „Пожня“ Васіля Петручука. Польскі пераклад гэтай кніжкі даўно ўжо знік з кнігарняў. Думаем, што і арыгінал не будзе залежвацца на складзе выдаўцы.

Кніжку выдала Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства, налічвае яна 235 старонак друку і каштуе 200 зл. Аўтар вокладкі і тыраж засакрэчаны. Тонкі намёк на вайсковае мінулае аўтара „Пожні“? У кожным выпадку, ён сам нічога перад чытачамі не ўтойвае, распранаецца амаль да стрыптызнага экстазу. А гэта чытач любіць. Тут супакойваем уражлівых на маральную чысціню педагогаў: не забараняйце „Пожні“ чытаць вучням — пурыстычныя ўнутраныя рэцэнзенты „сочнае мяса“, якое выстаўляецца ў польскім перакладзе, прысмажылі і прыкрылі прыстойнымі шматкамі, так што з гэтым усё ў парадку, а выхаваўчы зарад „Пожні“ несумненны. Як для маладых, так і для старых.

„Пожню“ набыць можна ў ГП БГКТ і ў аддзелах таварыства. (рл).

ных Ягайлам 14 жніўня 1385 года, абяцанняў страцілі актуальнасць і дзейснасць, пачалі абяртацца ў мёртвую літару, падобна як яго ж нядаўнія дагаворы з крыжакамі

Дасканала тое ўсведамлялі сабе кракаўскія вяльможы і спрабавалі ратаваць любым коштам не толькі падмочаную рэпутацыю каралевы, колькі набліжэнне Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага, а разам з ім — таксама свае ўласныя інтарэсы. 11 студзеня 1386 года польскае пасольства застала Ягайлу ў Ваўкавыску і ўручыла яму дакумент, што ён абраны „каралём» і ўладальнікам“ Каралеўства Польскага. Аднак Ягайла добра арыентаваўся ў складаным грамадскім і палітычным становішчы ў тагачаснай Польшчы, яе ўнутраных падзелах і спрэчках, і патрабаваў пацвярджэння „грамадствам“ гэтага акта. 2 лютага таго ж года з'ехаліся прадстаўнікі польскага „народу шляхецкага“ ў Люблін і прыбыўшаму туды Ягайлу, у прысутнасці яго шматлікай радні і знаці, асабіста заявілі, што выбіраюць яго сваім пануючым. Толькі тады рушыла велічная Ягайлава кавалькада ў Кракаў.

Ехаў Ягайла са сваёй многалюднай світай у Кракаў не спяшаючыся, на пераадоленне каля 250 кіламетраў, якія аддзяляюць тадышнюю польскую сталіцу ад Любліна, патрабаваў аж паўтара тыдня часу. Па дарозе прымаў паклоны князёў і вяльможаў, што прыбывалі з розных канцоў Польшчы. Сярод іх быў таксама і патаемны Ядвігін пасланец, якому каралева даручыла дакладна прыглядзецца „ўсходняму дзікуну і страшылішчу“, бо такім малявалі Ягайлу габсбургавы і крыжацкія агенты. Альгердавіч, зведаўшы ад сваіх шпіёнаў пра такую асаблівую місію пана Завішы з Алесніцы, запрасіў яго разам у... лазню, каб даць таму магчымасць дакладна прыглядзецца ўсім падрабязнасцям свайго цела. Мабыць, той не знайшоў ніякай заганы, бо потым даносіў сваёй пані, што „ў Ягайлы цела складнае і прыстойнае, погляд вясёлы і твар сухашчавы, зусім не брыдкі, як то іншыя расказваюць“. І па меры таго, як Ягайлава світа набліжалася да Кракава, мякчэла Ядвігіна сэрца.



**Ягайла-Якаў-Уладзіслаў. Паводле карціны А. Лесера. Мал. У Петрука.**

Цікаўных, што тлумна высыпалі на шлях пераезду новага манарха, здзіўляў не выгляд самога і яго світы, бо ён быў звычайны, еўрапейскі, але захапляла яго безліч вазоў са скарбамі, якія ён вёз у Кракаў. Што ж, дагэтуль, пачынаючы з чэшскага караля Брацiслава ў 1039 годзе і на Зыгмунце Люксембургскім ды Людовіку Андэгавенскім канчаючы, — усе каралі-чужынцы незлічонай колькасцю вазоў бясконца вазілі ўсялякае дабро з Польшчы. Таму не толькі здзіўленне выклікалі везеныя Ягайлам на Вавель скарбы, але ў сэрцах таксама шляхты, як і прасталюдзінаў нараджалі яны чалавечую прыхільнасць да новага манарха: на польскі трон узыходзіў гаспадар, а не рабаўнік. Скарбы, як сцвярджаюць гісторыкі, былі не малыя, калі на Вавелі не хапіла ім месца і трэба было наняць у горадзе аж дзве мяшчанскія камяніцы, каб

(Працяг на стар. 8)



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## За адной партай

**Алесь Якімовіч**

**Заканчэнне з папярэдняга нумара**

На перапынку Валодзя загаварыў да мяне:

— Міша, перасаджвайся на сваю парту. Нядобра так...

Я ўспыхнуў і адвярнуўся, гэтак жа, як і ён тады на двары. Ого, сяду я цяпер з табою за адну парту! Нізавошта!

Так я парваў з Валодзем усялякую дружбу. Ідзём са школы, хлопцы гавораць з ім, а я маўчу: абыдуся, думаю, без цябе.

Сяджу дома, рашаю задачы і злуюся на Валодзю. Чым бы такім дапячы яму?

• • •

Пасля заняткаў мы ішлі дахаты ўсе разам. Дайшлі да моста. І тут мне стукнула ў галаву думка: прамашыраваць па балясіне моста. Няхай падзівіцца Валодзя, які я самы смелы і рашучы! Няхай пашкадуе, што адстраціў такога сябра, як я!

Варта было мне толькі так падумаць, як нехта быццам падхапіў мяне і ўскінуў на балясіну.

Балансуючы, як цыркавы артыст на дроце, я пачаў асцярожна перастаўляць ногі. Хлопцы аж ахнулі ад дзіва. А мне толькі гэтага і трэба было.

І ўсё ішло добра, пакуль я глядзеў пад ногі. Але раптам мне захацелася зірнуць на Валодзю — як я ўразіў яго сваім геройствам? Я павярнуўся, а потым неяк захістаўся і паляцеў проста ў рэчку...

Да берага было недалёка, і я сам мог бы выплысці. Але ад страху так разгубіўся ў халоднай асенняй вадзе, што не толькі берага — свету белага не бачу.

— Ратуйце! — закрычаў я нямым голасам.

І амаль у той жа момант каля мяне апынуўся... Валодзя. Ён падхапіў мой мокры партфель і крыкнуў:

— Не бойся! Выплывем!

Я адразу пасмялеў і паплыў за ім фыркаючы. Валодзя ў адной руцэ трымаў мой партфель, а другой шпарка гроб ваду.

Мокрыя, як цюцькі, вылезлі мы на бераг.

— А цяпер — бягом! — крыкнуў Валодзя і памчаўся на ўвесь дух.

Калоцячыся ад холаду, я кінуўся за їм.

Валодзева хата была першая па дарозе, і ён без усялякіх слоў пацягнуў мяне ў сваю хату.

Бядуючы і вохкаючы, Валодзева маці хутка пераадзела нас у сухое, перавязала маю руку, потым нагрэла чаю з ліпавым цветам, напаіла нас, нацёрла шкіпінарам і пагнала на печ грэцца.

Мыляглі з Валодзем разам, накрыліся адным кажухом. І так мне стала прыемна, што і сказаць нельга.

Неўзабаве прыбегла і мая ўстрывожаная маці: ёй расказалі пра мяне Геня і Віця. А як паглядзела, што мы вясёлыя і здаровыя, на цёплай печы грэемся, узрадавалася і кажа:

— Дык няхай мо ў вас і начуе мой сабакар? А заўтра відней будзе, што з ім рабіць: скарачом лупцаваць ці ў бальніцу везці.

— Няхай начуе, — згаджаецца Валодзева маці. — Удвух ім ахвотней будзе.

Так я астаўся ў Валодзі начаваць. Прызнацца, мне і самому не хацелася разлучацца з маім лепшым сябрам. Цяпер я нарэшце пераканаўся, што дарэмна лічыў яго здраднікам. Які ж ён здраднік, калі не пабаяўся ўслед за мною кінуцца ў халодную рэчку? Ні Віця, ні Геня так не зрабілі.

Я бліжэй прыціснуўся да Валодзі і зашаптаў яму на вуха:

— Мір навек!

— Мір навек! — горача дых-

(Працяг на стар. 10)

**Алесь Пальчэўскі**




Сонечным летнім днём мы ішлі берагам сцюдзёнай рачулкі і любаваліся прыгажосцю велічнага Каўказскага хрыбта. Над вяршынямі яго віселі белыя хмаркі, дзе-нідзе раскудзелены туман перакочваўся цераз горы і спаўзаў па схілах уніз. Вечныя таўшчэзныя леднікі зіхацелі на сонцы. Ад нізу гор да леднікоў, а то і на прагалах між імі зелянелі дрэвы і трава.

— Чароўная мясціна, адпачнём трошкі тут, Міця, — сказаў я сябру.

Той ахвотна згадзіўся, зняў руказак і палажыў на камень.

— І чым толькі гэтыя дрэвы жывяцца тут? Вунь у расколіне, на голым камені, расце такая хвойка! — паказаў Міця.

— Цудоўным паветрам ды перагноем ігліцы, лісця, — пачуўся голас з-за куста.

Мы здзіўлена пераглянуліся і пайшлі туды, адкуль пачуўся нечаканы голас. У цяньку сядзеў сухарлявы, загарэлы да чарнаты мужчына гадоў пад семдзесят і чысціў рыбу. Побач ляжала брызентавая торбачка з хлебам і паляўнічая стрэльба. Ён ветліва адказаў на наша прывітанне і запрасіў садзіцца.

— Бачыш, Андрэй, у якім добрым месцы ты параіў спыніцца на адпачынак. Юшкі свежай пакаштуем, — жартаўліва падміргнуў мне сябар.

— Я здалёк чуў вашы крокі і запрасіў бы ў кампанію сам, калі б вы абмінулі мяне.

— Дзякуем за гасціннасць. У нас ёсць што есці, але ад юшкі не адмовімся... Вы, мусіць, паляўнічы?.. — паказаў я вачамі на стрэльбу і спытаў, як зваць нашага новага знаёмага.

— Завуць мяне Агафон, а працую я лесніком тут. Елі калі стронгу?

— Не, не даводзілася, — адказаў Міця.

— То сёння пакаштуем. Смачная. І рыба, і юшка з яе.

Міця пайшоў па ваду, а я спытаў, ці многа тут водзіцца стронгі.

— Ёсць. Яна любіць чыстую халодную ваду.

— Самі лавілі?

— Сам, а то хто ж, — мядз-

(Працяг на стар. 10)

## З далёкага і блізкага

Дарагія чытачы „Зоркі“!

Дарагія дзеці!

Дарагія настаўнікі!

Цяпер такі час настаў, што няма чалавека, няма хаты, няма школы, у каго б, ці дзе б, не было здымкаў. Нават фотаапараты ёсць у вельмі многіх. Вашы памятныя здымкі могуць быць вельмі цікавыя і цяпер для чытача, хоць і прайшоў большы ці меншы час іх ляжання ў вашых хатніх архівах.

„Зорка“ хоча пачаць публікаваць здымкі з вашых архіваў, але толькі такія, на якіх выступаюць дзеці. Тыя дзеці ўжо могуць не быць дзяцьмі, але на здымках яны павінны быць малымі.

**Прысылайце здымкі чорна-белыя, выразныя і большага фармату.** Падпішыце іх — хто, дзе, калі.



**Даем першы здымак з такой серыі. Мы атрымалі яго ад Валянціны Мароз, настаўніцы з Бельска. Ён зроблены на парозе школы ў Паўлах у шасцідзесятыя гады, калі пані Валя была тут выхавацельніцай III класа.**

**Цікава, ці дарослыя паўлаўцы пазналі сябе ці помняць той час?**

**Чакаем на здымкі з далёкага і блізкага!**

## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“!

Пішу я да Цябе першы раз. Вучуся ў трэцім класе Пачатковай школы ў Барысаўцы. Жыву ў вёсцы Васількова. У нашым класе толькі шэсць вучняў. Мы ўжо ўмеем чытаць і пісаць па-беларуску. Беларускую мову ў нас вядзе настаўнік Андрэй Ялоза. Я вельмі люблю беларускую мову.

Буду старацца пісаць да Цябе, дарагая „Зорка“, і ў будучыні. Буду дзяліцца з Табой сваім жыццём у школе і расказваць пра поспехі ў вучобе.

**Эля Каролька**, вуч. III кл.
школа ў Барысаўцы

## Беларускія музычныя інструменты




Мае драўляны корпус скрыпічнай ці іншай формы. У ніжняй частцы корпуса — драўлянае кола, якое кранае струны, што гучаць гнусава і жаласна. Клавішны механізм мае ад 5 да 13 клавіш, якія заціскаюць адну струну, а дзве іншыя струны басовыя, якія гучаць у актаву і квінту. Раней словы „лірнік“ і „жабрак“ былі амаль што сінонімамі. Зараз ліра гучыць у некаторых фальклорных ансамблях.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 9)

## ЯК МЯДЗВЕДЗЬ ЛАВІЎ РЫБУ

ведзь?.. Хаця мне аднаго разу і мядзведзь налавіў.

— Мядзведзь? — здзівіўся я. — Як жа гэта ён без вуды, без сеткі?

— Гэта яшчэ на першым часе майго лесніКоўства было. Іду дарогай, чую — нехта фыркае ў малінніку. Спыніўся, прыглездзеўся: Мішка малінай ласуецца. Наеўся і трушком — на вадапой.

Схаваўся я за куст і цікую, куды адтуль пойдзе. На ўсякі выпадак стрэльбу зняў з плячэй. І раптам, дзіва проста, недалёка ад мяне пляснулася ладная рыбіна. Выйшаў я асцярожна на прагал, каб паглядзець, чым гэта мядзведзь займаецца. І аж вачам сваім не паверыў: ляжыць мой Мішка на беразе і стронгу ловіць.

Як? Апусціць лапу ў ваду і варушыць кіпцюрамі. Стронга — рыба асцярожная, але — цікаўная, спяшаецца паглядзець, што там такое варушыцца, а Мішка — хоп! — і на бераг. І так добра лавілася ў яго, так захапіўся ён лоўляй, што ўвачавідкі з дзесятак выкінуў.

Тут і прыйшла мне ў галаву спакуслівая думка: адведаць свежай стронгі. Сабраў я яе ў торбачку ды ходу назад. Спыніўся і назіраю, што далей будзе. Устаў „рыбак“ збіраць сваю здабычу. Бачыць, толькі дзве апошнія рыбкі падскакваюць на зямлі, прыдушыў іх лапай, злажыў трубкай губы ды як зараве ад злосці. Мяне аж мароз прабраў. „Не паздаровіцца, — думаю, — калі ўведае, што віноўнік прапажы паблізу“.

Стаю і не дыхаю. Мала аднаго страху, дык вось табе яшчэ. Бачу, на голас Мішкі спускаецца з гары здаравенная мядзведзіца з трыма дзецьмі. Тут я зусім перапалохаўся.

А той рыбак быў, відаць, пестуном — нянькай у сям’і. У мядзведзеў так і заведзена: адзін са старэйшых дзяцей застаецца пры матцы і памагае гадаваць меншых. Падышла мядзведзіца, убачыла, што толькі дзве рыбкі ляжаць, дала свайму памочніку добрага плескача за такое старанне і загадала зноў лавіць. Меншыя кінуліся ў ваду забаўляюцца, а можа, таксама лавіць, але маці злосна фыркнула на іх, каб не перашкаджалі. Тыя не слухаліся. Тады мядзведзіца сама спусцілася ў рачулку і выгнала малых на бераг: есці тую рыбу, што налавіла іх „нянька“.

Тут я асцярожненька назад, назад — ды ходу, далей ад бяды, бо раззлаваны мядзведзь страшны для чалавека.

...Юшка тым часам згатавалася. Мы адведалі, падзякавалі дзядзьку Агафону за пачастунак і запрасілі яго наведаць нашу Беларусь.

— Наўрад ці давядзецца зноў быць у вашай староньцы. Узрост не той. Я прайшоў яе з усходу на захад, калі гналі фашыстаў. Пад Гомелем па языка хадзіў. А вы, пакуль маладыя, пабольш вандруйце па незнаёмых мясцінах, некалі будзе што ўспомніць. Мы развіталіся з гэтым шчырым, цудоўным чалавекам і пайшлі сваёю дарогай.

(Скарочана)

(Працяг са стар. 9)

## ЗА АДНОЙ ПАРТАЙ

нуў на мяне шкіпінаравым духам Валодзя і моцна сціснуў маю левую руку.

Я зноў адчуваў сябе, як і тады, калі сядзеў з Валодзем за адной партай.

Назаўтра мы ўсталі зусім здаровыя. Праўда, у мяне трошкі заклала нос, а Валодзю нават і гэта абмінула. Але ў школу нас усё ж не пусцілі.

— Калі да вечара гарачка не падскочыць, — сказала Валодзева маці, — то заўтра пойдуць.

Мы правялі ўвесь дзень у Валодзі дома: рашалі задачы, кармілі арэхамі яго пацешную рыжую вавёрку і чыталі цікавую кнігу пра Рабінзона.

Гарачка не падскочыла, і назаўтра мы вясёлыя пабеглі ў школу.

З таго часу мы зноў сядзім за адной партай. Мінуў цэлы навучальны год, а мы яшчэ ні разу не пасварыліся, хоць Валодзя і цяпер не дае мне спісваць задачы. Такі стаў упарты. Але я і не прашу ў яго сшыткаў, бо навучыўся сам і задачы рашаць, і дыктанты пісаць.

(Скарочана)

*Заданне:*

*Ты кім хацеў бы быць: Валодзем ці Мішам?*

*Ці ты памагаеш і як сваім калегам?*

## Вясёлы куточак

— Дзедку, скажы, чаму ў чалавека два вуха, а толькі адзін рот?

Дзед адказаў:

— Каб больш слухаць, што гавораць іншыя і менш гаварыць самому.

* * *

— Як бы ты падзяліў пяць бульбін на шэсць чалавек? — пытаецца настаўнік.

— Зрабіў бы таўканіцу, — адказвае здагадлівы вучань.

* * *

— Дзе ты хадзіў, што такія брудныя боты ў цябе? Дажджу ж не было! — дзівіцца мама.

— Трэба ведаць, мама, дзе шукаць.

## АДГАДАНКА




Як прайсці з квадрата I у квадрат II наступіўшы на ўсе трыццаць два белыя палі, але... не больш чым па адным разе?

## Слаўныя людзі Беларусі

## РАГНЕДА

Полацкі князь Рагвалод вельмі любіў сваю адзіную дачку Рагнеду. Галубіла яе маці. Прыгажосцю і розумам сястры ганарыліся браты. Чутка аб красе і добрым сэрцы полацкай князёўны разышлася далёка па свеце. Пачалі княжычы з блізкіх і далёкіх краін слаць да яе бацькі сватоў, каб аддаў дачку замуж. З’явіліся таксама і паслы ад князя наўгародскага Уладзіміра. Яго больш цікавіў, праўда, пасаг, чым сама князёўна. Аднак Рагнеда пра замужжа і слухаць не схацела.

Аднойчы прыбылі сваты ад князя кіеўскага Яраполка, роднага Уладзіміравага брата, і з нізкім паклонам перадалі ёй абраз свайго пана, намаляваны знакамітым мастаком. Князёўна паглядзела і задумалася. З партрэта глядзеў на яе прыгожы юнак са шчырымі блакітнымі, вялікімі вачыма.

І Рагнеда сказала бацьку:

— Пайду за Яраполка...

Зведаў пра тое князь Уладзімір і прыкінуўся моцна абражаным на Рагнеду і яе бацьку. Сабраў вялікае войска і патаемна напаў на Полацкае княства. Хоць палачане заўзята абараняліся, аднак Уладзімір перамог іх, здабыў Полацк, забіў Рагнедзіных бацькоў і братоў, а князёўну ўзяў у палон і прымусіў стаць жонкай. Потым ён рушыў на Кіеўскае княства і таксама здабыў яго. Свайго брата Яраполка загадаў забіць і сам стаў княжыць у Кіеве ды заваёўваць усё новыя землі.

Жыла Рагнеда ў Кіеве ў раскошных княжацкіх харомах-палацах.

Нарадзіўся ў яе сын, і яна назвала яго Ізяславам. Імя Ізяслаў значыла: той, хто адабраў ці адваяваў славу, годнасць, гонар („із’яў славу“).

Рагнеда сумавала па сваёй зняволенай радзіме, Полацкім княстве, і часта плакала па загінуўшых родных. Аднойчы Уладзімір, вярнуўшыся з далёкага паходу, наведаў яе з сынам і, здарожаны, заснуў. Тады Рагнеда палічыла, што надараецца нагода помсціць скарэнне роднай зямлі і смерць ды нягоды суродзічаў. Яна схапіла нож і замерылася на спячага мужа. Але Уладзімір у той момант прачнуўся, адхіліў жончын удар і пазбег пэўнай смерці. На яго запытанне, чаму Рагнеда адважылася на такое злачынства, яна адказала:

— Ты ж забіў маіх бацьку, маці і братоў! Зямлю нашу захапіў у няволю. Да таго не кахаеш мяне з гэтым дзіцянём нашым...

Кіўнула пры тым на Ізяслава ды горка-горка заплакала.

Хоць і ўзрушылі Уладзіміра гэтыя словы, аднак ён загадаў Рагнедзе падрыхтавацца на смерць. Яна апранула свой найпрыгажэйшы ўбор, а малалетку Ізяславу дала вынуты з ножнаў магутны Рагвалодаў меч і павучыла:

— Як прыйдзе бацька, скажы яму: „Ойча, ты не адзін тут“.

Калі прыйшоў Уладзімір і ўбачыў у руках сына аголены меч ды пачуў пагрозлівыя словы, збянтэжыўся і сказаў:

— А хто ж ведаў, што ты тут?..

Усхваляваны, ён не дазволіў катам забіць Рагнеду. Выйшаў, склікаў раду сваіх баяраў і расказаў ёй пра ўсё. Баяры параілі яму:

— Не забівай ты яе дзеля дзіцяці гэтага, але абнаві айчыну яе і аддай ёй з сынам...

Князь Уладзімір паслухаў рады: на скраю Полацкага княства пабудаваў новую магутную крэпасць і горад каля яе і назваў імем сына — Ізяслаўль (сённяшняе Заслаўе каля Мінска). У 988 годзе пасяліў там Рагнеду з сынам, аддаўшы ім ва ўладанне Полацкую зямлю.

Рагнеда старанна выхоўвала сына і клапацілася пра адбудову магутнасці свае бацькаўшчыны. Ізяслаў вырас на мужнага і разважлівага князя. За яго панавання Полацкае княства ўмацавалася і адваявала сваю ранейшую незалежнасць.

Рагнеда была першай памочніцай і найлепшай парадніцай Ізяславу. Памерла яна ў 1000 годзе ў Заслаўі. Народ увекавечыў яе памяць: па сённяшні дзень каля Заслаўя рэчка завецца Княгінькай, возера — Рагнедзь, а пагорак — Магілай Рагнеды.

Годам пазней памёр князь Ізяслаў і ў Полацкім княстве пачаў княжыць яго сын Брачыслаў.

Мікалай Гайдук



Рагнеда з малым сынам Ізяславам і Уладзімір. Мал. У. Петрука.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ПЧОЛЫ І ТРУЦЕНЬ

На пчол вядомы Труцень абураўся:
— Гулёны! І куды Пчаляр глядзіць?
Няўжо не бачыць: ранак ледзь заняўся,
Яны мяне пасмелі разбудзіць,
Домік пакінулі
і паляцелі разам з маткай.
І слыху цэлы дзень няма ад іх.
Ды шчэ збіраюць нейкія узяткі
На красках лугавых?
Ну як цярпець такое можна:
Сярод дня
У іх гульня?
Не пацярплю! Ім не дарую я!
І Труцень напісаў сігнал трывожны.
А пчолак працавітая сям'я
Не парушала распарадак
свой штодзённы.
Карысную рабіла справу,
Мядок збіраючы на славу,
Хоць і трывогу білі пустазвоны.
Пчол нават прыязджалі правяраць,
Як парушальнікаў закона.
А што ім заставалася рабіць, гулёнам?
На плёткі не зважаць!

---

Нярэдка іншы Труцень,
Найпершы кар'ерыст і хам,
Не робячы нічога сам,
Імкнецца працавітага атруціць
І сапсаваць яму настрой надоўга.
Чаму ж мы церпім Трутня вось такога?

**Яўген Крупенька**




# НІЎКА



## НЕБАРАКА-ПАДАРОЖНІК

— Ці ведаеш ты Югаславію?
— Так.
— А Крым?
— Таксама.
— А дзе прыемней адпачываць?
— Не ведаю. Усюды ездзіў я з жонкай і дзецьмі.

## СВАРКА

Пасля сваркі разжаленая жонка крычыць да мужа:
— Я хацела б памерці!
— Я таксама.
— То я ўжо не.

## БЕЗ ВЫБАРУ

У перапоўненым аўтобусе адзін з пасажыраў у час скандала крычыць другому:
— Не пхайцеся на хама!
— А ці ў гэтай таўкатні можна выбіраць?

## КАМЕРСАНТ

Да бацькоў малога Міколкі маюць прыйсці госці. Маці павучае яго:
— Калі праз увесь вечар будзеш паслухмяны і не скажаш ні разу „халера", дам табе сто злотых.
— Але я ведаю такое слова, якое вартае прынамсі пяцьсот злотых.

## ПЕРАБОРЛІВЫ

У ачуцінаўскім матэлі павесілі таблічку:
„У нас начаваў Напалеон з паняй Валеўскай. Чаму не мог бы і ты?"
Праз нейкі час з'явілася заўвага:
„Пані Валеўская не ў маім гусце".

## СНЕДАННЕ

— Ці ты ўжо снедаў?
— Не, яшчэ ні кропелькі не меў у роце.

**Быў цэласнай натурай, але з часам здрабнеў.**

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Размаўляюць два шатландцы.
— Ты яшчэ не ажаніўся? Дык ты ўжо два гады ўдавец...
— Разумееш, мяне ўжо знаёмілі з некалькімі кандыдаткамі і з усіх бакоў яны былі добрыя, але...
— Што ты не палюбіў?
— Ды не, не ў гэтым справа. Бачыш, ні адна з іх не была хворая туберкулёзам.
— Туберкулёзам? Навошта табе гэта?
— Разумееш, мая нябожчыца жонка хварэла туберкулёзам, і пасля яе смерці засталося лякарства. Вось я і думаю — не прападаць жа яму!

*

На Дзікім Захадзе сустракаюцца два каўбоі.
— Ты нешта зусім зазнаўся, Джэк, — гаворыць першы.
— У якім сэнсе?
— Учора я выпусціў у цябе цэлую абойму, а ты нават не павярнуўся!

*



— Ты чуў, любы! Цяпер тваё фота з'явіцца ва ўсіх газетах.

## З „Весніка Задрыпоніі"

### ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА

Ломаўская прафесіянальная школа ўдзяляе вялікую ўвагу вытворчай практыцы вучняў. Калі на тэарэтычных занятках хлопцаў вучаць, як трэба працаваць, то пры наведванні заводскіх цэхаў яны бачаць, як працаваць не трэба.

### ПАРАДА

Перш чым есці поедам падначаленых, рэкамендуецца спярці іх у парашок.



## МІНІВЕРШЫ

### ВЫСАКАРОДНЫ

Ён птушка невысокага
палёту,
Але ў яго „высокі" клопат:
Ён безупынку ўсё грабе,
І ўсё сабе і для сябе.

**Язэп Кудзеля**

### ХВАЛЬКО

Расказваў Рак
Суседзям ганарліва,
Што ён запрошаны
На кухаль піва.

**Уладзімір Мацвеенка**



# Кур'ёзы

## ЕСЦІ НАЛІТА!

Можна ўявіць сабе здзіўленне гаспадынь у Рангуне, калі ў бірманскай сталіцы з кранаў разам з вадою пацяклі... крэветкі. Загадка неўзабаве высветлілася. Справа была ў час тхінджана — бірманскага Новага года. Галоўная асаблівасць гэтага свята — усе паліваюць адзін другога вадою. Натуральна, расход вады ўзрос, сістэма водазабеспячэння працавала з максімальнай нагрузкай, і дробныя прэснаводныя крэветкі, што жывуць у некаторых вадаёмах, былі захопленыя магутнымі помпамі.

У некаторых дамах „водаправодны ўлоў" быў настолькі багаты, што пачастунку хапіла на ўсю сям'ю.



### Сярэдневяковая мараль

Навошта змагацца са сваімі недахопамі, калі навокал столькі чужых?



**Хваляцца сваімі добрымі якасцямі, як правіла, тыя, у каго іх не надта многа.**

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020